

Праваабарончы
інфармацыйны бюлетэнь
Берасьцейшчыны

№7 (ліпень), 2015

# Мяжа




**Міліцыя тэрарызуе незалежнага журналіста Алеся Леўчука**

(старонка 11)

## ЗЬМЕСТ

## Верховный суд отменил постановление

24 июня 2015 года Председатель Верховного Суда Республики Беларусь Сукало В.О., рассмотрев дело об административном правонарушении в отношении Бельчука Виктора Николаевича, ПОСТАНОВИЛ: постановления начальника ОГАИ Брестского РОВД от 08 июля 2014 года и судьи суда Брестского района от 01 декабря 2014 года отменить, а дело направить на новое рассмотрение в тот же орган внутренних дел, уполномоченный рассматривать дело об административном правонарушении.

Бельчука Виктора Николаевича незаконно хотели оштрафовать в размере 14 базовых величин, что составляет 2100000 рублей.

Бельчук В.Н., оспаривая виновность в совершении правонарушений, подал жалобу на постановление начальника ОГАИ Брестского РОВД в суд Брестского района, где указал, что самодельным трактором при описанных в протоколах обстоятельствах не управлял, в это время находился в другом месте.

В материалах, приобщенных к делу имеются три копии протоколов МНБ 003139, МНБ 0053140, МНБ 0053301, из которых следует, что самодельным трактором 09 мая 2014 года управлял Бельчук Александр Николаевич, 01.03.1986 года рождения.

По неизвестным причинам, через некоторое время были написаны другие протоколы МНБ 0053297, МНБ 0053298, МНБ 0053299 и показания свидетелей (сотрудников милиции), в которых подтверждается виновность Бельчука Виктора Николаевича.

**Однако существуют противоречия в показаниях свидетелей.**

Из протокола допроса Сидорова А.С. следует, что со слов свидетеля Грико Ю.Н. ему известно, что трактором управлял Бельчук Александр Николаевич. А из протокола Грико Ю.В. следует, что в качестве водителя за рулем находился Бельчук Виктор Николаевич.

Свидетель Мисовец С.Н. первоначально при допросе 15 мая 2014 года указал, что трактором управлял Бельчук Александр Николаевич, а впоследствии 27 июня 2014 года заявил, что водителем является Бельчук Виктор Николаевич.

Со слов Бельчука Ивана Николаевича, дедушки Виктора и

Александра Бельчуков, работники ОГАИ Брестского РОВД сознательно переписали протоколы на внука Виктора, два часа его уговаривали подписать протоколы, внук требовал мотивировочную часть постановления, которую ему так и не выдали.

Судья суда Брестского района не проверил соблюдение порядка подачи жалобы, установленного ч.2 ст.ПИКоАП, и вернул жалобу Бельчуку В.Н.

Верховный суд также установил незаконность возврата жалобы Бельчука В.Н. судьи суда Брестского района в связи с тем, что постановление о привлечении Бельчука В.Н. к административной ответственности вынесено начальником ОГАИ Брестского РОВД, значит и вопросы принятия направления жалобы подлежали рассмотрению начальником ОГАИ Брестского РОВД.

Руководствуясь ст.12.14 ПИКоАП, постановление подлежит отмене, дело направлено на новое рассмотрение.

## Новы метад ціску на берасцейскіх актывістаў

На берасцейскіх грамадскіх актывістаў Андрэя і Паліну Шарэнда супрацоўнікі спецорганаў вынайшлі новы метад ціску – праз 6-гадовага сына. Ім нечакана патэлефанавала псіхолаг з 25-ай школы і жанчына з аддзела адукацыі і сказалі, што ім патрэбна паглядзець умовы пражывання іх сына. Але Андрэй і Паліна ў катэгарычнай форме ім адмовілі, кажа Паліна:

- Яна запыталася, чаму гэта намі КДБ цікавіцца. Прызналася, што гэта КДБ, што далі загад праверыць нас. Мы ж не алкаголікі, на ўліку не стаім. Я адразу сказала, што гэта звязана з палітыкай, што іх прыход мы будзем расцэньваць як ціск, а ўсю інфармацыю будзем пераказваць СМІ.

Паводле Паліны Шарэнда-Панасюк, нядаўна рабілі спробу выклікаць іх у пракуратуру па “пытанні прад’яўлення зыска пра спагнанне шкоды юрыдычнай асобе”. Яе муж за апошнія паўгода тройчы быў затрыманы: двойчы праваахоўнымі органамі і адзін раз на беларускай мяжы, дзе ў яго былі канфіскаваны 7 сцягоў Еўразвязу.

http://www.racyja.com/hramadstva/novy-metad-tsisku-na-berastsejskikh-akty/

## Туалет адразу ў камеры – збоку за агароджай проста дзірка

Сярод еўрапейскіх краін Беларусь з’яўляецца лідэрам па колькасці парушэнняў правоў вязняў ва ўстановах пенітэнцыярнай сістэмы.

Кепскае медычнае абслугоўванне і харчаванне, перапоўненасць турэмных камер, адсутнасць псіхалагічнай дапамогі, высокая смяротнасць сярод асуджаных, павялічваецца колькасць рэцыдываў.

Як парушаюцца правы вязняў бачна з аповяду Аляксандра Бяльчука пра турэмнае жыццё. За 2 месяцы адсідкі ў Баранавіцкай турме ён страціў 11 кілаграмаў вагі.

Распавядае Бяльчук А.І.: “У турме кормят адной кіслой капустай: на сняданак, абед, вячэру, по зэкаўскаму - “бігус”. Жах да чаго квасная страва, калі яе з’есці, страўніка ня будзе – спаліць! Я ня еў нічога, можна было толькі белы хлеб есці. Бохан хлеба на пяць чалавек. А чорны хлеб даюць бохан на чатыры чалавекі, то яго есці немагчыма. Квасны, чорны, што зямля. Кажуць, што яго пякуць у ваўкавыскай турме.

Памешкане, у якім я сядзеў, метраў шэсть на шэсть, нас там было 10 чалавек. Дымавая заслона. За ўсё сваё жыццё не праглынуў больш дыму, чым у камеры за гэтыя месяцы. Агульны туалет адразу ў камеры – збоку толькі адгароджана – унітазу няма, проста дзірка. Бялізну пасціраеш, на вяроўку на вакно павесіш, троху чысцей. У такіх умовах перавыхоўваюць “злачынцаў”, не па-людску…”

Нажаль сёння праваабаронцы ня маюць магчымасці кантраляваць выкананне правоў вязняў у турмах.

## Два гады буду пад наглядам

9 ліпеня фермер з вёскі Арлянка Маларыцкага раёну Аляксандар Бяльчук вышаў на волю з Баранавіцкай турмы. Дома спадара Бяльчука сустракала вялікая сямья, усе былі рады ягонаму вызваленню. Ніхто яго не папракаў і не асуджываў, што ён патрапіў за




краты, ведалі “за праўду”. Аляксандар Бяльчук далей будзе адстойваць свае правы, бараніць сваю гаспадарку.

Праваабаронцы “Берасцейскай вясны” запыталі гаспадара Бяльчука, аб яго самаадчуванні і аб ягонай гаспадарцы. Аляксандар кажа: “Працаваць няма калі, таму што трэба на ўлік у міліцыі стать, трэба пашпарт атрымаць, далей на біржу працы на улік, як тунеядзец. Участковы ўжо заходзіў, ня ведаю колькі разоў у тыдзень ці ў месяц будзе мяне наведваць. Я свой тэрмін адбыў, але два гады буду пад наглядам як “небяспечны злачынца” для грамадства. Пакуль я адбываў ссой тэрмін, старшыня калгасу “зляпіў” на мяне скаргу і скіраваў у суд, маўляў, чаму выкарыстоўваецца памяшканне, калі я знаходжуся за кратамі. Судзя не прыняла заяву ад старшыні калгасу, патлумачыла, што ў фермера Бяльчука А.І. ўсё па закону, усё правільна”.

Аляксандр Бяльчук паступова прызвычайваецца да жыцця на волі, да хатняй ежы.

# Валянцін Стэфановіч: “Не толькі у назіральніка павінна быць магчымасць сачыць за падлікам галасоў, але і сама працэдура павінна быць празрыстай"




Не так даўно, у праграме “Контуры” сакратар ЦВК Мікалай Лазавік сказаў, што назіральнікам павінна быць забяспечана магчымасць непасрэдна назіраць за падлікам галасоў.

"Наша ўстаноўка такая. Нават адмыслова ўнеслі папраўку ў закон, што назіральнік павінен назіраць падлік галасоў ва ўмовах, якія забяспечваюць агляднасць падліку галасоў. Не проста павінен здалёк глядзець, а павінен бачыць, як падлічваюцца бюлетэні. І гэта патрабаванне закона. Таму, калі хтосьці дзесьці кажа, што не прадастаўлена такая магчымасць, гэта значыць, што камісія парушае закон. І пра гэта трэба сігналізаваць", - сказаў Мікалай Лазавік.

Аднак, "Праваабаронцы за свабодныя выбары" не ўпэўнены, што працы назіральнікаў не будуць перашкаджаць, і што ў іх сапраўды будзе магчымасць безперашкодна выконваць свае функцыі.

Намеснік старшыні Праваабарончага цэнтру “Вясна” Валянцін Стэфановіч звяртае ўвагу:

“Мы, са свайго боку, вельмі вітаем такія ўстаноўкі, якія даюцца прадстаўнікамі ЦВК ніжэйстаячым камісіям. Але хацелася б адзначыць, што практыка складаецца па-іншаму: вельмі часта назіральнікаў не падпускаюць блізка да сталоў, на якіх ажыцяўляецца падлік галасоў, а нават калі яны і будуць дапушчаныя - не здолеюць сапраўды назіраць працэдуру падліку, паколькі сама працэдура такая, што назіральнік усё адно не зможа зразумець, што адбываецца на стале, дзе лічацца бюлетэні.

На цяперашні час падлік бюлетэняў ажыцяўляецца, як правіла, сумесна ўсімі сябрамі камісіі і пры гэтым кожны лічыць свой нейкі стос бюлетэняў. На жаль, ЦВК адмовілася ўрэгуляваць гэтую працэдуру такім чынам, каб адзін сябра камісіі ажыцяўляў падлік і дэманстраваў бы кожны бюлетэнь і сябрам камісіі, і назіральнікам, і агучваў тое, што адлюстравана ў гэтым бюлетэні. І такая працэдура сапраўды дазваляла б назіральніку разумець, што адбываецца падчас падліку, і суаднесці, тое, што ён назіраў, з тымі вынікамі, якія потым будуць замацаваныя ў выніковым пратаколе. Менавіта такая працэдура адлюстраваная ў рэкамендацыях БДІПЧ АБСЕ па выніках назірання за папярэднімі выбарамі, і якая не была імплементаваная беларускімі ўладамі ў дзеючае заканадаўства. Таму, мы вітаем тое, што назіральнікаў не будуць больш садзіць за 10 метраў ад стала, як гэта раней бывала, і яны нічога акрамя спінаў сябраў камісіі не бачылі. Але тым не менш, мы лічым, што сама працэдура павінна быць празрыстай. І толькі пры такіх умовах назіральнік зможа якасна сачыць за падлікам галасоў”.

http://spring96.org/be/news/78849

## На заводзе ў Берасьці прымусова зьбіралі подпісы за Лукашэнку

Праваабаронцы заклікаюць грамадзян паведамляць пра выпадкі прымусу з боку адміністрацыяў прадпрыемстваў падпісвацца за таго ці іншага прэтэндэнта ў кандыдаты.

Праваабаронцы атрымалі ліст ад жыхаркі Берасьця, у якім яна




паведамляе пра парушэньне выбарчага заканадаўства падчас збору подпісаў за Аляксандра Лукашэнку.

«Справа адбываецца ў г. Берасьце, ААТ „Берасьцейскі электрамэханічны завод“. Учора (27 ліпеня) усім было абвешчана, што ўсе супрацоўнікі, у якіх ёсьць пашпарты, павінны падпісацца за цяперашняга. Ініцыятыўная група разьмясьцілася ў аддзеле кадраў у пэрыяд з 14:30 да 16 гадзіны. Тыя ж, хто ня мае пры сабе дакумэнта, павінны прынесьці яго на наступны дзень. Начальнікам аддзелаў даверана даць сьпісы тых, хто адмовіўся ставіць подпіс. Такія справы...

І што цікава, пасьля таго як я адмовілася паставіць подпіс, прайшла чутка па заводзе, што ў нейкі зь дзён я выходзіла з працы ў нецьвярозым стане. Супадзеньне? Ня думаю)))))», — цытуе ліст жыхаркі Берасьця Праваабарончы цэнтар «Вясна».

Праваабаронцы адзначаюць, што такія дзеяньні парушаюць ч.10 арт. 61 Выбарчага кодэксу:

«Удзел адміністрацыі арганізацыі ў зборы подпісаў, роўна як і прымус у працэсе збору подпісаў і ўзнагароджваньне выбаршчыкаў за ўнясеньне подпісаў, не дапускаюцца. Парушэньне гэтых патрабаваньняў можа быць падставай для адмовы ў рэгістрацыі альбо адмены рашэньня аб рэгістрацыі кандыдата ў прэзыдэнты Рэспублікі Беларусь».

Кампанія «Праваабаронцы за свабодныя выбары» зьвярнулася да грамадзян з просьбай паведамляць пра выпадкі ціску з боку адміністрацыяў прадпрыемстваў і ўстановаў з мэтай прымусіць падпісацца за таго ці іншага прэтэндэнта ў кандыдаты, а таксама пра факты іншых парушэньняў выбарчага заканадаўства. Праваабаронцы абяцаюць аказаць прававую дапамогу ў абскарджваньні незаконных дзеяньняў адміністрацыяў.

http://www.svaboda.org/content/article/27158978.html

## Святлана Калінкіна: Любыя крокі ў справе беларускіх палітвязняў важныя

Так шэф-рэдактар "Народнай волі" Святлана Калінкіна каментуе кампанію па вылучэнні кандадатам ў прэзідэнты палітвязня Мікалая Статкевіча. Яго ініцыятыўную групу не зарэгістравалі, а Вярхоўны суд адмовіўся разглядаць скаргу Марыны Адамовіч на рашэнне Цэнтрвыбаркама.

„Але важней, – кажа Святлана Калінкіна, – што цяпер ніводны еўрапейскі палітык не дазволіць сабе перад выбарамі закрыць вочы на праблему палітвязняў у Беларусі":

- Ніхто, напэўна, не чакаў, што будзе зарэгістраваны Мікалай Статкевіч у якасці кандыдата ў прэзідэнты. Але любыя спробы прыцягнуць увагу да таго, што кандыдат яшчэ з мінулых выбараў застаецца за кратамі, я бы вітала. Калі бы на нейкіх этапах у некаторых еўрапейскіх палітыкаў была надзея закрыць вочы на праблемы палітычных зняволеных, зараз гэта не атрымаецца. І таму, на мой погляд, гэта ўжо добры вынік.

Палітзняволены Мікалай Статкевіч ў сваім апошнім лісце да жонкі Марыны Адамовіч падзякаваў усім, што ўвайшоў у ініцыятыўную групу па ягоным вылучэнні кандыдатам на прэзідэнцкіх выбарах 11 кастрычніка ды не пабаяўся, як сам ён жартуе, падтрымаць „ворага дзяржавы №1".

Пра гэта Мікалай Статкевіч напісаў жонцы ў сваім лісце з Магілёўскай турмы №4, дзе адбывае пакаранне.

http://www.racyja.com/palityka/svyatlana-kalinkina-lyubyya-kroki-u-spra/

# Міліцыя тэрарызуе незалежнага журналіста Алеся Леўчука



Дадому да берасцейскага журналіста Алеся Леўчука зноў прыйшла міліцыя. Гэтым разам яны хацелі перапісаць няправільна складзены іншымі міліцыянтамі адміністратыўны пратакол супраць фрылансера.

«Толькі ноччу мы з сям'ёй прыехалі з адпачынку, яшчэ не паспелі рэчы распакаваць, як у дзверы пагрукала міліцыя, – распавёў Belsat.eu Алесь Ляўчук. – Пра тае, што я вярнуўся ў Беларусь, міліцыянту паведамілі ў памежным камітэце. Я лічу, што ўлады спецыяльна тэрарызуюць мяне і маю сям'ю, не даюць мне спакойна жыць і працаваць у роднай краіне, бо я паказваю людзям праўду, а праўда – гэта самае небяспечнае для гэтых уладаў».

На размову з міліцыяй Алесь Ляўчук паехаў у Маскоўскі РАУС, у якім працаваў міліцыянт, цела якога знайшлі пазаўчора з агнястрэльным раненнем. З журналістам размаўляў старшы інспектар Камянецкага РАУС Аляксандр Алпатаў, які склаў на Леўчука новы пратакол за матэрыял пра рэлігійны канфлікт у аграгарадку

Белавежскі, які выйшаў на нашым канале «Белсат» 4 чэрвеня. Стары пратакол, па словах Алпатава, быў складзены няправільна.

«Я зноў напісаў, што не згодны з пратаколам, бо КДБ, міліцыя і суд парушаюць Канстытуцыю і закон аб СМІ, а таксама мае правы, – заявіў Алесь Ляўчук. – Спытаў у міліцыянта, ці разумее ён, што парушае закон, што за гэта прыйдзецца рана ці позна адказваць. Але здаецца, што яны адчуваюць поўную беспакаранасць. Адзінае, чаго баяцца, каб не было ўвагі да іх з боку медыяў, прасіў нічога не пісаць пра нашую размову. А таксама сказаў, што мае візу на пяць гадоў, і не баіцца, што яму забароняць уезд у краіны Еўразвязу».

Раней Алеся Леўчука ўжо пераследавалі за супрацу з «Белсатам». Упершыню суд адбыўся ў снежні 2014-га года. Тады паседжанне адбылося са шматлікімі парушэннямі. Суддзя Ларыса Назарэнка аштрафавала журналіста на Br 6 млн.

У сакавіку 2015-га суддзя Раман Карабан аштрафаваў Алеся Леўчука за супрацу з «Белсатам» амаль на Br 4 млн.

А 2-га ліпеня суд Ленінскага раёну Берасця прызнаў незалежнаму журналісту Алесю Леўчуку максімальнае пакаранне за «незаконны выраб і распаўсюд прадукцыі сродкаў масавай інфармацыі» (частка 2 артыкулу 22.9 Кодэксу адміністратыўных парушэнняў) – Br 9 млн.

Цягам 2015-га года незалежных журналістаў у Беларусі аштрафавалі за «незаконны выраб і распаўсюд прадукцыі сродкаў масавай інфармацыі» на суму Br 133,28 млн.

http://belsat.eu/be/articles/milicyya-teraryzue-nezalezhnaga-zhurnalista-alesya-lechuka/

## Суд адмовіўся разглядаць скаргу супраць уладаў

22 ліпеня назіральнік ад БХК Уладзімір Вялічкін і праваабаронца Раман Кісляк падалі скаргі ў суд нязгодныя з рашэннем, якое было ўхвалена на супольным пасяджэнні прэзідыюма Брэсцкага гарацкога Савета дэпутатаў і Брэсцкага гарацкога выканаўчага камітэта 20 ліпеня 2015 года "Аб утварэнні раённых у горадзе Брэсце камісій па выбарах прэзідэнта Рэспублікі Беларусь".

Заяўнікі палічылі. што у падрыхтоўку праекта рашэння супольнага пасяджэння Брэсцкага гарвыканкама і Прэзідыюма

гарсавета было ўмяшальніцтва з боку асоб зацікаўленых у перамозе кандыдата ад выканаўчай улады, бо прадстаўнікі іншых кандыдатаў у склад камісій не патрапілі. Заяўнікі прасілі суд прызнаць рашэнне прэзідыюма Брэсцкага гарацкога Савета дэпутатаў і Брэсцкага гарацкога выканаўчага камітэта ад 20 ліпеня 2015 года "Аб утварэнні раённых у горадзе Брэсце камісій па выбарах прэзідэнта Рэспублікі Беларусь" за №117/9/1232" неправамоцным і забавязаць гарвыканкам і прэзідыюм гарсавета правесці паўторна пасяджэнне і выправіць недахопы.

Суд Ленінскага раёна г.Брэста ў сваім вызначэнні ад 23.07.2015г. адмовіў заяўнікам ва ўзбуджэнні грамадзянскай справы ў сувязі з непадведамаснасцю.

## Склад выбарчых камісій сфармаваны з прыхільнікаў толькі аднаго кандыдата

Уладзімір Вялічкін падаў скаргу ў суд Ленінскага раёну горада Берасця на Бресцкі гарацкі выканаўчы камітэт і Прэзідыум гарацкога Савета дэпутатаў на неправамоцныя дзеянні супрацоўнікаў Брэсцкага гарвыканкама, якія ўмешваліся ў фарміраванне раённых горада Брэста камісій па выбарах Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь, што парушыла ягоныя правы, прадугледжаныя артыкулам 25 Міжнароднага пакта аб грамадзянскіх і палітычных правах.

Уладзімір Вялічкін лічыць, што дадзеныя камісіі былі сфармаваныя з грубейшым парушэннем Выбарчага кодэкса Рэспублікі Беларусь супрацоўнікамі Брэсцкага гарвыканкама яшчэ да пачатку сумеснага пасяджэння Прэзідыюма Брэсцкага гарадскога Савета дэпутатаў і Брэсцкага гарвыканкама. Супрацоўнікі Брэсцкага гарвыканкама, на ягоную думку, ўмяшаліся ў працэс стварэння дадзеных камісій. Склад гэтых выбарчых камісій быў сфармаваны з прыхільнікаў толькі аднаго кандыдата ў Прэзідэнты - А. Р. Лукашэнка. Прадстаўнікі БПЛ “Справядлівы Свет”, ПБНФ і АГП, якія маюць сваіх вылучэнцаў на пасаду прэзідэнта, у склад камісій не былі ўключаныя. Усё гэта сведчыць аб магчымай падрыхтоўцы фальсіфікацый вынікаў выбараўна карысць аднаго з кандыдатаў – дзеючага прэзідэнта Рэспублікі Беларусь.

## Брэст: у склад абласной выбарчай камісіі трапіў адзін прадстаўнік апазіцыйнай партыі

Упершыню на інтэрнэт-старонцы Брэсцкага аблвыканкама была арганізаваная анлайн-трансляцыя з сумеснага паседжання прэзідыума абласнога савета дэпутатаў і абласнога выканаўчага камітэта, на якім вырашалася пытанне пра стварэнне выбарчай камісіі.

Праўда, сама трансляцыя цягнулася каля 15 хвілін, бо менавіта столькі спатрэбілася ўдзельнікам паседжання для фармавання абласнога выбаркама. Агулам было пададзена 28 заяў на ўключэнне ў склад камісіі, аднак адна заява была адхіленая, бо яе накіраваў Брэсцкі гарадскі камітэт БРСМ. Як адзначыў начальнік галоўнага упраўлення арганізацыйна-кадравай работы аблвыканкама Сяргей Цімашук, паводле заканадаўства гарадская структура не мае права прапаноўваць сваіх вылучэнцаў у выбарчыя камісіі абласнога ўзроўню.

У выніку абласны выбаркам сфармаваны з 13 чалавек, дзесяць з якіх прадстаўляюць грамадскія аб’днанні і палітычныя партыі. У прыватнасці, у склад камісіі трапілі вылучэнцы Камуністычнай партыі Беларусі, Ліберальна-дэмакратычнай партыі, Рэспубліканскай партыі працы і справядлівасці, Аб’яднанай грамадзянскай партыі. Сваіх прадстаўнікоў у выбаркаме маюць таксама ФПБ, аб’яданне ветэранаў, РГА “Белая Русь”, Беларускі саюз жанчын, Беларускі саюз афіцэраў, абкам БРСМ, а яшчэ тры асобы ў склад камісіі былі вылучаныя грамадзянамі шляхам падачы адмысловых заяў. Першае паседжанне новаабранай выбарчай камісіі запланавана на 22 ліпеня.

http://spring96.org/be/news/78555

## Будзце пільнымі – Вас трымаюць за дурняў!

У Берасьце, як і ў іншых гарадах Беларусі праз дыстрыбьютер, аўстрыйскай фірмы Hermann Miiier ідзе распаўсюджыванне васьміступенчатых фільтраў для ачыісткі вады. Кансультант-прадавец предлагает пратэставаць якасць вадаправоднай вады, а на самой справе якім заўгодна чынам намагаецца ўпарыць “аўстрыйскую сістему” (зробленую ў Кітаі і прывезеную з Расеі). Прадавец прапануе

набыць гэтую сістэму - “танна”, усяго за нейкія 9 мілліонаў беларускіх рублей (каля 600 у.е.).

Прадавец пакрыўдіуся, калі я не набыла супер сістэму адразу, а вырашыла падумаць. Яго можна зразумець, поўтары гадзіны намаўляў і ўсё дарма.

Пакпнікоў павінны насторожваць настойлівыя абяцанкі “Толькі сёння скідкі на гэту прадукцыю”, “У нас ёсць магчымасць аформіць крэдыт і растэрміноўку”… Праз інтернет я даведалася рэальны кошт гэтай суперсістэмы - каля 130 у.е.

## Перамозе пад Грунвальдам - 605 гадоў

605 гадоў таму беларусы, палякі, літоўцы, татары і чэхі перамаглі крыжакоў у Грунвальдскай бітве.

Знакамітая бітва адыграла велізарную ролю ў гісторыі народаў Усходняй і Цэнтральнай Еўропы. 15 ліпеня 1410 года аб'яднаныя сілы Вялікага княства Літоўскага і Польскага каралеўства, у складзе якога тады знаходзіліся беларускія землі, пры ўдзеле татарскіх і чэшска-мараўскіх палкоў атрымалі бліскучую перамогу над крыжакамі Тэўтонскага ордэна.

Бітва пачалася апоўдні з наступу лёгкай літоўска-татарскай конніцы на левы фланг тэўтонцаў. Гэтая атака была сустрэтая артылерыйскім залпам - першым у гісторыі, але малапаспяховым прымяненнем палявой артылерыі. У адказ пачалося контрнаступленне цяжкай ордэнскай кавалерыі, якая пацясніла літоўцаў і татараў.

Адначасова немцы сутыкнуліся з моцным супрацівам літоўска-рускай пяхоты, якая прыкрывала баявыя парадкі польскіх войскаў ад флангавага ўдару пры адступленні літоўскай конніцы. На дапамогу гэтым палкам Вялікі князь Літоўскі Вітаўт выслаў падмацаванне. Каб выправіць сітуацыю, Вялікі магістр ордэна Ульрых фон Юнгінген увёў у бой другую лінію тэўтонскай кавалерыі, аднак палякі таксама задзейнічалі рэзерв, якім камандаваў польскі кароль Ягайла.

У гэты час літоўская конніца паспяхова вярнулася на поле бою і нанесла моцны ўдар па левым флангу Ордэна. Падчас гэтай бітвы загінуў сам ордэнскі магістр. Пасля гібелі фон Юнгінгена і капітуляцыі часткі тэўтонскіх войскаў, ацалелае ордэнскае войска збегла.



У гэтай бітве загінулі блізу траціны немцаў, у тым ліку практычна ўвесь камандны склад Ордэна, значная колькасць рыцараў патрапіла ў палон.

Грунвальдская бітва нанесла смяротны ўдар па нямецкай экспансіі на Усход. Агрэсія нямецкіх рыцараў на ўсход была спыненая. У гэты дзень, як вобразна сказаў у рамане «Крыжаносцы» лаўрэат Нобелеўскай прэміі па літаратуры Генрык Сянкевіч, «разбілася ўся нямецкая магутнасць, дагэтуль заліваўшая, як хваля, няшчасныя славянскія землі». Сучасныя беларускія гісторыкі і публіцысты падкрэсліваюць: пасля Грунвальдскай бітвы цягам пяці стагоддзяў, аж да 1914 года, на землі Беларусі не ступала нага нямецкага заваёўніка. У бітве пры Грунвальдзе ўдзельнічалі палкі з усіх тагачасных беларускіх зямель і княстваў.

Бітва пад Грунвальдам увайшла ў гісторыю як найлепшы прыклад супольных дзеянняў і ўзаемнай падтрымкі Вялікага княства Літоўскага і Польскага каралеўства, якая не раз у будучыні ратавала ўжо супольную дзяржаву гэтых народаў.

http://charter97.org/be/news/2015/7/15/159810/

**Кантакты:**

**e-mail:** viasna_bierascie@hotmail.com

**Наклад 299 асобникаў**

Праваабарончы інфармацыйны бюлетэнь Берасьцейшчыны «Мяжа»